№ 94 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 94 (186). Год II. Вільня, 23 лістапада 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Арэшт Пурышкевіча і Юсупова.

### 22 лістапада.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Бітва на палудзенным заходзі ад Камбрэ трывае далей. Пры массовым учасьці панцырных самаходаў варожая пяхота і кавалерыя намыкалася зрабіць прарыў, неўдаўшыйся першаго дня. Ен ізноў неўдаўся. Наша артылерыя і кулемёты значна працярэбілі варожые войскі, каторые пасьля папалі пад контрудар нашай пяхоты. На заходнім беразі ад Шэльды ворагі адкінуты на Анье і Фонтэнь. На ўсходнім беразі—да мейсц, скуль вышлі, на поўдні Рыміі. Перад і за нашымі лініямі на ўсенькім полі бітвы лежаць абломкі панцырных самаходаў. У начы бітва сцынілася. Сільны францускі атрад уварваўся на нашу лінію на поўдні ад С. Кантэн, але быў выкінут контратакай.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Між Краон і Бэрі-о-Бак французы пачалі сільные наступленьня. Усюды мы адкінулі ворагоў штыкамі і контратакамі. Толькі на паўночным усходзі ад Віль-о-Буа французы удзержаліся на адным пункце.

**На усходнім театры і Македонскім фронці**—без перамен.

**Італьянскі тэатр:**

Мы і аўстрыякі ўзялі штурмам вяршыны Монтэ Фонтана Сэкка і Монтэ Спінуція, **між** Брэнтай і Піявэ.

---

ЛЕНДОН. (Рэўтэр). Разрыў між большэвікамі і меньшэвікамі, як здаецца, адбыўся фактычна.

Церав некалькі дзён будзе аб'яўлен дзень выбароў у установучы сэйм. Аднак, пры цяперашней анархіі ня можэ быць гутаркі аб болей-меней безпартыйных выбарах.

Паход войска з Лугі на Пецярбург спынен. Афіцэры прылучыліся да меньшэвікоў, салдаты— да большэвікоў.

Убіўцы Распутіна, Цурышкевіч і кн. Юсупов, арэштованы с прычыны абвіненьня у зносінах с Каледзіным.

Рэволюцыйны ваенны камітэт выдаў адозву да заможных станаў, каб яны не ігралі з агнём. Іначэй яны будуць пазбаўлены права атрымліваць спажыўные прадукты, а іхные запасы будуць сконфіскованы.

За камендантаў Масквы назначэн салдат.

РОТТЭРДАМ. «Daily Telegr.» даведываецца с Пецярбурга:

Меньшэвікі панура глядзяць на палажэньне: яны баяцца дыктатара і большэвікоў. Яны ўжо блізка дайшлі угоды з большэвікамі, каб супрацівіцца дыктатару ўсё роўна, хто бы ён ні быў.

Між Лугай і Гатчынай сабрано многа артылеры, пяхоты і кавалеріі. Мэты іх нікому не вядомы.

Аб Каледзіне кажуць, што ён, бадай, будзе дыктатарам; ён занімае Донецкі капальняна-прамышлены округ. Ходзяць чуткі, што ён жадае сазыву устаноўчаго сэйму ў Маскве.

БАЗЭЛЬ. «Petit Parisien» пішэ, што расейская ваенная міссія на францускім ваенным фронці ўзята назад.

НЬЮ-ІОРК (Рэўтэр). Ньюёркскіе ўласьці налажылі арэшт на 10.000 тонн цукру, лежаўшаго ў адным тутэйшым складзе і закупленаго расейскім урадам перад рэволюціей. Цукер прададуць дзеля здаволеньня мейсцовых патрэб.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Ля заходняго узбярэжжа Англіі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 12.000 тонн.

ВЕНА. Імператар выехаў на італьянскі фронт.

ШТОКГОЛЬМ. «Socialdemokraten» пішэ, што міністэр фінансоў, соцыаліст Брандінг, узяў адпуск с прычыны благога здароўя.

ВАШЫНГТОН. Амэрыканскі мінаносец „Чонсы" затануў у поясе блокады. Утанулі 20 асоб.

ЛЮГАНО. Газэты паказуюць з Рыму, што Папеж прэдлажыў італьянскаму ураду аб'явіць Вэнэцію нэутральнай пад упраўленьнем вэнэцкаго патрыарха. Аднак, італьянскі урад на гэта не пристаў.

БАЗЭЛЬ. Даньскі міністэр сказау карэспандэнтам газэт, што Данія. Швэція і Норвэгія пры ўсякіх варунках астануцца нэутральнымі.

ЛОНДОН (Рэўтэр). У Ніжняй Палаці прынята папраўка да закона аб выбарах, паводлуг каторай асобы, супраціўляючыеся ваеннай павіннасьці, пазбаўляюцца выбарнаго права.

## Ад Рэдакціі.

**Каб злучыць у адно ўсе кругі і ўсе палітычные кірункі беларускаго грамадзянства дзеля агульна-нацыональнай справы: сазыву ў Вільні агульна-беларускай нацыональнай Конфэрэнціі з усіх беларускіх зямель окупаціі — функціі Рэдакцыйнаго Камітэту „Гомана" прыняў на сябе прэзыдіум Організацыйнаго Камітэту дзеля сазыву паменёнай Конфэрэнціі, зложэнаго тымчасам з ніжэйпісаных асоб:**

прэдстаўнікі беларускаго каталіцкаго духавенства: *кс. Ян Семашкевіч* і *кс. Владыслау Толочко;*

прэдстаўнікі беларускаго праваслаўнаго духавенства: *протоерэй сьв. Міхаіл Голенкевіч* і *еромонах сьв. Савватій;*

п.п. *Вінцэнты Сьвятополк-Мірскі, Язэп Ліцкевіч, Вацлау Ластоускі, Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Язэп Салавей, Домінік Семашко, Янка Станкевіч, Казімір Шафнагель, Язэп Туркевіч.*

Заседаньня прэзыдіума адбываюцца кожын дзень, апрыч нядзель, ў памяшчэньні Організацыйнаго Камітэту, Віленская 23, ад 1 да 2 гадз. папал.

---

## Ня тымі рукамі.

*(Ліст у Рэдакцію).*

Польская газэта „Dziennik Wileński" хваліць календар „Прыяцеля" — асабліва за яго стацьцю аб Уніі на Беларусі. Газэта пішэ, што пасьля рэволюціі ў Расеі ізноў паўстае справа рэлігійнай Уніі і, значыцца, зусім у пару календар зачапіў яе.

Хтож можэ і мае права за гэта ўзяцца? Ведама, толькі тые, што працуюць дзеля беларускаго адраджэньня, дзеля таго працуюць, каб палепшыць долю і адчыніць вочы гаротнаму беларускаму народу. Тымчасам што-ж гэта за людзі, што пачалі гутарку у „Прыяцелю" і „Дз. Віл."? Як калісь „Прыяцель", так цяпер „Дзен. В." робяць на Беларусі шкодную работу нішчэньня прыроднаго векавітаго жыхара гэтаго краю—беларуса, ужываючы тое, што ёсць самае дарагое у чэлавека — яго рэлігію—дзеля крыўднай работы, загубы беларусоў. Ведама, аб Уніі могуць пісаць ўсе, але калі водле слоў польскай газэты „паўстае справа Уніі" і калі ў гэты самы час палянізацыйнае выдавецтва замешчае вялізарную стацьцю, каб шырыць яе «сярод народу гэтаго краю», то гэта ўжо не пісаньне, ня гутарка. але тэндэнція. А проціў усякай польскай работы між беларусамі у гэтым кірунку мы выступім, як найэнэргічней. Толькі пры нашых дзіўных, ненормальных варунках магчыма гэткая работа палякаў. Палянізатары, людзі, каторые не здатны зразумець істотные патрэбы нашаго народу, каторые хацеліб зробіць з гэтаго народу поле для шырэньня польшчыны, каторые ня спытаўшыся гэтаго народу жадаюць прылучыць Беларусь да Польшчы, каб між іншым, весьці польскую колонізацыю на Беларусі.

Гэтые людзі лезуць да найдаражэйшаго для нашаго народу — яго рэлігіі. Падумайце, хто можэ паверыць вам, што гэта запраўды справа рэлігіі, а ня польская спэкуляцыя на рэлігіі?

Калі-б гэту справу закранулі сьвядомые беларусы, што жадаюць долі, шчасьця свайму народу, што, пранікшыся любасьцяй роднаго народу і пэўные праўдзівасьці каталіцкай веры. хочуць даць гэту веру сваім братом іншае веры,—о, перад гэткімі ксяндзамі, каб нават не згадзіліся з імі, мы заўсёды пракланілі-б свае галовы! Але тут выступілі польскіе эндэкі, каторые злосна становяцца проці ўсяго беларускаго, каторые гэтак перэплялі і зацямнілі каталіцызм польшчынай, што просты чэлавек не разбярэ, дзе канчаецца адзін і пачынаецца другі, для каторых, хто ведае, што даражэй: каталіцызм ці польшчына,—бо ўжо часта ня крыжыкі і мэдалікі пасылаюць на беларускую вёску в Вільні, але польскіе арольчыкі і беларожавы стужачкі...

Гэткім людзём мы скажэм адно: рукі далоў! Бо вы нам чужые вы —злосьнікі нашаго народу і што-б вы ні пачыналі рабіць—хоць бы

дацъ цукер і газу. Пабраўшы задаткі, ён вёў ашуканых людзей да дому № 21 пры Пятроўскай вуліцы, ўвадзіў у сярэдзіну і прасіў крыху паждаць, а сам уцекаў праз другіе дзьверы. Урэшці, крымінальнай паліціі паводлуг апісаньня пацярпеўшых удалося дайсьці вінавайцу.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

АМСТЭРДАМ. «Times» даведываэцца с Пецярбурга, што Ленін 8 лістапада прэдлажыў усім ваюючым дзержавам зрабіць замірэньне на 3 месяцы.

ЖЭНЕВА. „Echo de Paris“ наказуе с Пецярбурга, што паслы саюзьнікоў пастанавілі завязацъ зносіны з расейскім рэволюцыйным урадам.

АПАРАНДА. Ленін у аднэй сваей прамове ў радзе раб. і салд. сказаў, што толькі цяпер пачалася рэволюція большэвікоў. Цяпер пачнецца царство работнікоў, селян і салдатоў. Новы урад дасць новые законы. Прыйдуць новые часы ня толькі для Расеі, але і для ўсяго сьвету. Вестку аб новым перэвароці ў Расеі вітаў пролетарыат усіх старон. Рэволюція пачынаецца ужо і ў Англіі.

ШТОКГОЛЬМ. Большэвікі заявілі нямецкім незалежным соцыалдэмократам, што работнікі і салдаты захапілі ў Расеі ўласць і прэдлагаюць ураз жэ пачаць перэгаворы аб міры без аннэксій і контрыбуцій — на аснове самаазначэньня нацыональнасьцей. Аднак, проці гэтаго „міра народаў“ паўстаюць капіталісты як у Расеі, так і за граніцай.

З Нямеччыны, Франціі і Аўстрыі большэвікі атрымалі завераньня, што соцыалістычны расейскі пролетарыат можэ лічыць на сільную паддзержку.

РОТТЭРДАМ. Большэвікі зусім запанавалі ў Маскве. Крэмль і іншые гісторычные будоўлі асталіся цэлымі.

АПАРАНДА. С Пецярбурга даносяць: Генэрал Духонін прыняў каманду над большэвікамі. Народ спакоен. Ад панядзелку ізноў чынны электрычны трамвай і адкрыты банкі. Большэвікі ідуць разам з меньшэвікамі і інтэрнацыоналістамі. Соцыал-рэволюцыонеры адмовіліся працаваць з большэвікамі.

ШТОКГОЛЬМ. На першай нарадзі кіраўнікоў соцыалістычных партый, як палажыць канец грамадзкай вайне, разгледалі гэткую праграму:

Творыцца міністэрство з усіх соцыалістычных партый. Большэвікі будуць мець у ім перавагу.

Рады работнікоў твораць асобную організацію, прыслухаючую міністэрству; яна складаецца са 100 членаў рады раб. і салд., 100 членаў рады селян, 100 членаў мєстовых дум Пецярбурскай і Маскоўскай, 80 прэдстаўнікоў арміі і флота, 20 прэдстаўнікоў фаховых організацій, 15 членаў саюза жалезнадарожнікоў і 5 — саюза почтова-тэлеграфных служачых.

У праграме новаго ураду гаворыцца аб той-часным пачатку мірных перэгавораў, развязцы зямельнай справы і сазыве устаноўчаго сэйму.

ШТОКГОЛЬМ. Сюды прыехаў прыватны сэкрэтар Керэнскаго, катораму ўдалося ўцячы с фальшывым пашпартам. Ен пацьвярдзіў, што Керэнскій уцёк, а большэвікі панують у Пецярбурзі. Генэрал Каледзін стараецца вымарыць Пецярбург голадам і, пануючы над Донецкім басэйнам, не дае вугальля і спажыўных прадуктаў. Большэвікі арэштавалі б. міністра заграні чных спраў, Нератова, катораго падазрэваюць, што ён укрывае тайные умовы Расеі с саюзьнікамі.

ГААГА. Паводлуг вестак „Handelsblatt“, атрыманых с Пецярбурга, Керэнскій утраціў усю сваю павагу. Але і большэвікі не дабіліся таго, чаго жадалі. У Пецярбурзі яны, праўда, захапілі ўласць, але упраўляць усей Расеей ня могуць.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Чыноўнікі розных урадоў усё ешчэ не прыступаюць да работы. Яны адмаўляюцца прызнаць урад большэвікоў.

ЖЭНЕВА. «Matin» пішэ, што францускіе банкі адмовіліся выплачываць грошы паводлуг расейскіх чэкаў і перэказоў.

## З усяго сьвету.

ПАРЫЖ. (Гавас). Міністэрпрэзыдэнт Клемансо заявіў: „Я бы не прыстаў на тое, каб Нямеччыне быў дадзен доступ у сямью народаў. Спытайцеся бэльгійцаў, што варт подпіс Нямеччыны! Мая мэта—дайсьці пабеды. Пад той час, як людзі б'юцца, адбываюцца з'езды соцыалістоў і людзей, каторые кажуць, што заўтра мы будзет стаяць на парозі міра. Гэтак раззброіваюць народ.“ Парлямэнт высказаў ураду сваю веру і зажадау энэргічнаго вядзеньня вайны,

ПАРЫЖ (Гавас). **Парлямэнт.** Гаворучы аб падгатоўцы міра, Форжо сказаў, што ён жадае звароту Эльзаса і Лотарынгіі, звароту страт і утварэньня сям'і народаў. Прыйдзе дзень, калі Нямеччына будзе прасіць міра.

ЛЮГАНО. Рымскіе газэты пішуць аб спадзеванай новай ноце Папежа.

ЦЮРЫХ. З Лондона наказуюць, што англіцкіе работнікі маняцца зрабіць на урад націск, каб ён апрацаваў агульную мірную праграму.

ВАШЫНГТОН. Каб зрабіць вайну популярнай, наняты 15.000 прамоўцаў, каторые будуць у тэатрах, кінэматографах і т. п. гаварыць прамовы па 4 мінуты.

ЦЮРЫХ. С прычыны апошніх разрухоў тут аб'яўлено асаднае палажэньне.

ЦЮРЫХ. На заседаньні работніцкай рады пастаноўлено не працаваць у дзень пахарон ахвяр вулічных разрухоў.

ВАРШАВА. 27 кастрычніка члены польскай рэгенцкай рады паслалі нямецкаму імператару пісьмо, пішучы ў ім між іншым:

«Мы жджэм, што польскі народ, кіруючыся да спаўненьня сваіх уласных задач і апіраючыся на звязі заходняй культуры наагул, разам з абедзьвымі цэнтральнымі дзержавамі будзе ісьці да супольных палітычных і экономічных мэт».

17 лістапада нямецкі імператар адказаў на гэта пісьмом, у якім кажэ:

«...Я перакопан, што Польшчы суджэно у свабоднай, самаахвотнай еднасьці з магутнай суседняй дзержавай ўступіць у новы пэрыод дзержаўнаго расцьвету...»

ВАРШАВА (В.Т.Б). Газэты апавешчаюць, што назначэньне Яна Кухажэвскаго за першаго польскаго міністра-прэзыдэнта пацьверджэно цэнтральнымі дзержавамі.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**20. XI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Артылерыйская бітва у Фляндрыі, між лесам Гутгольст і Зандвордэ, вельмі узмацавалася і трывала ўсю ноч. У Артуа, наабапол Скарп, пры Бількур і пры Кэан, баевая чыннасць крапчэла.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На паўночным усходзі ад Суассона і на ўсходнім беразі Маасу агонь значна крапчэў.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

**Італьянскі тэатр**

Сільные контратакі італьянцоў проці нашых пазыцій на Монтэ Томба вызвалі вострые бітвы. Наша пяхота адкінула ворагоў на іх старые пазыціі. На ніжнім цячэньні Піявэ—нічога новаго.

**21.XI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі, між Пэлькапэль і Пашэндаль, агонь ізноў дайшоў вялікай сілы. Між Арра і С. Кантэн пасьля вострай артылерыйскай бітвы узняліся сільные англіцкіе штурмы між дарогамі з Бапом і Пэррон у Камбрэ. Штурмы гэтые мелі на меці прарваць нямецкі фронт у кірунку Камбрэ. Пад зашчытай чысьленых панцырных самаходаў ворагам удалося пасунуцца ўпярод. Нашы рэзэрвы аслабілі ўдар на задніх пазыціях. Вёскі ў поясе бітвы, ў тым ліку Грэнкур і Маркойн, асталіся ў руках ворагоў. Мы утрацілі часць матэр'ялоў, бышых на пазыціях. Сільны агонь на полі бітвы трываў да поўначы. Сягоньня раніцай пры Ріанкур ён ізноў дайшоў вялікай сілы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Баевая цэннасць узмацавалася на поўночным заходзі ад Піно і на ўсходзі ад Краонн.

**На ўсходнім македонскім і італьянскім тэатрах** — без вялікшых бітв.

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 19. XI. **Італьянскі тэатр:** У гарыстых ваколіцах на поўдні ад Фэльтр войскі генэрала Альфрэда Крауза ўзялі штурмам Квэро і Монтэ Корнэля. Ворагі пакінулі ў нашых руках больш за 1.000 палонных.

*Албанскі тэатр:* Босьнійскіе егеры ўварваліся у італьянскіе перадмастовые акопы пры Фэррас, на ніжняй Воюзе, выгналі італьянцоў і ўзялі вялікую дабычу.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. У Рэйхстаг пададзено новае жаданьне ваеннаго крэдыту на 15 мільярдоў марак.

БЭРЛІН. Нямецкі урад аб'явіў ўсім саюзным, нэутральным і варожым дзержавам, што ён пашырае блокадны пояс навакол Англіі, устанаўлівае навакол Азорскіх астравоў новы пояс блокады і закрывае для руху ўсё Сяродземнае морэ, бо грэцкі урад Вэнізэлёса выкарыстаў пакінутую Грэціі вольную дарогу дзеля падвозу аружжа і амуніціі.

БАЗЭЛЬ. У «Daily Mail» пішуць: Страты англіцкаго тарговаго флота за першую трэціну лістапада роўны стратам за такі-ж час у красавіку, меўшым для падводнай вайны значэньне катастрофы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі навакол Англіі 14 000 тонн.

# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысласць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначаные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Навуковые даступные для усіх.

| | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|
| біс Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісменнік. Біограф чны нарыс Р. Зэмкевіча | — | 20 |
| Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — | 15 |
| Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| Гутаркі аб гаспадарцы | — | 3 |
| Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — | 3 |
| Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 60 |
| Bł. Andrej Boboła mučynik | — | 5 |
| Pčalina—žywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | 30 |
| Як багацеюць чэскіе селяне | — | 10 |
| Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 3 |
| На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 20 |
| Alkahol | — | 2 |
| Rady dla matak | — | 3 |
| Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |
| Našto biełarusam gazety | — | 3 |
| Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — | 10 |

## Повесьці і апаведаньня прозай.

| | | |
|---|---|---|
| Гэдалі, Э. Ожэшко | — | 6 |
| Казка аб вадзе | — | 3 |
| Архіп і Лявонка,—М. Горкаго | — | 8 |
| У дому лепей.—Новіча | — | 4 |
| „Маладая Беларусь“. Сэрыя I-я сшытак 1-шы | 1 | — |
| „Маладая Беларусь“ „ „ сшыт. II-гі | 1 | — |
| Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — | 5 |
| Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — | 15 |
| Амэрыканец—А. Новіча | — | 20 |
| Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — | 10 |
| Беларускіе казкі | — | 5 |
| Хілібэртава пакута, Амфітэатрова | — | 5 |
| Апаведаньня—Тараса Гушчы | — | 10 |
| Abrazki — Zmitraka Biaduli | — | 15 |
| „Маладая Беларусь“. Сэр. 1-шая. Сшытак 3 | 1 | — |
| Колядная пісанка 1913 г. | — | 10 |
| Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — | 6 |
| Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — | 5 |
| Апаведаньня — Галубка | — | 6 |
| Праклёныши — Л. Гвозда | — | 6 |
| Аб чым шапацелі лісьця | — | 6 |
| Стражнік.—Сцёпкі Бірыло | — | 10 |
| Васількі. Зборнік апаведаньнеў Ядвігіна Ш. | — | 30 |
| Родные зьявы. Зборнік апаведаньнеў. Т. Гушчы | — | 60 |
| Ня ўсе-ж разам ягомосьці!—Апаведаньне Лесіка | — | 5 |
| Сыгнал. Апаведаньне Гаршына | — | 5 |
| Як м бяздольны. Петры Беларуса | — | 10 |
| Рунь. Зборнік апаведаньнеў Максіма Гарэцкаго | — | 40 |
| Вялікодная пісанка. Зборнік | — | 30 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.